


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (1088) ГОД XXII БЕЛАСТОК 2 СТУДЗЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.

**Пуцяводныя думкі**

*Як страшэнна памыляюцца тыя, якія думаюць, што яны могуць жыць высокім, духоўным жыццём, у той час, як целы іх каснеюць у бяздзейнасці і раскошы.*

*Г. Тора*

*Варты жалю той вучань, які не перасягае свайго настаўніка.*

*Леанарда да Вінчы*



# ЖЫЦЦЁ, АХВЯРАВАНАЕ ЛЮДЗЯМ

Вольга Смактуновіч з Белавежы цэлае сваё жыццё прысвяціла працы ў ахове здароўя. Працавала ў цяжкіх часах. Войны, знішчэнні, голад не спрыялі нікому і нічаму. „Спаглянуць на тыя гады сёння, дык аж не хочацца верыць, што чалавек мог усё гэта перажыць“, — гаворыць яна. І праўда! Але пачнем ад пачатку.

Вольга Смактуновіч (дзявочае прозвішча — Байко) нарадзілася ў 1891 г. у Чадзелі, што непадалёку Хвойніка ў Белавежскай пушчы (цяпер на тэрыторыі БССР). Яе бацька працаваў аб'ездчыкам. Вольга ўжо ў дзяцінстве праяўляла схільнасць да медыцыны, дык нічога дзіўнага, што пайшла вучыцца ў Гродзенскую цэнтральную акушэрска-фельчарскую школу. Скончыла яе ў чэрвені 1914 г. У час вучобы была сведкам пахавання вядомай пісьменніцы Элізы Ажэшка (у 1910 г.). Калі атрымала атэстат, запрапанавалі ёй працу ў мясцовасцях — Нарве, Скідзелі ці Драгічыне. Вырашыла ехаць у Нарву: адтуль было найбліжэй дадому. Працавала тут цэлы год. Цяжка было, у Еўропе працягвалася І сусветная вайна і, хаця яна ў гэтую ваколіцу прыйшла ў палове 1915 г., усё-такі і тут не было спакою. Мабілізацыя, няпэўнасць палітычнай і грамадскай сітуацыі дэзарганізавалі ўсе галіны жыцця. Калі прыйшлі немцы, Вольга ўцякае праз палаючы Бельск у Чадзель, потым у Пружаны, а ўрэшце ў Калугу. Тут пачынае працаваць у ваенным шпіталі, які размясціўся ў памяшканні тэхнікума. У сваёй палаце мела каля 50 чалавек, а ў цэлым шпіталі знаходзілася ўвесь час каля 300 параненых салдатаў. Даводзілася нярэдка працаваць цэлыя суткі без адпачынку. Вольга не наракала. Аддае параненым усе свае сілы і веды, і, калі яе выслалі ў Крым апекавацца хворым доктарам-жанчынай з іх шпіталя, яна не можа вытрымаць курортнага „гультайства“ і хуценька вяртаецца ў шпіталь.

Калі вайна падыходзіць к канцу, едзе ў Белавежу, дзе даведваецца аб смерці бацькі. Цяжка было з гэтым прымірыцца, але разам з сястрой выбіраецца яна ў Чадзель пацяшаць матку. Праз нейкі час Вольга вяртаецца ў Белавежу. Белавежа ў той час прадстаўляла жаласны малюнак: спаленыя дамы, людзі жылі проста ў зямлянках і буданах. Ненарушаныя жылыя дамы можна было палічыць на пальцах. Вольгу гэта не пужае. Разумее, што яна тут патрэбная. У бараку, каля даўняй царскай электрастанцыі (дзе адначасова жыве) арганізуе часовую амбулаторыю. Потым, у 1922 годзе пераводзіцца ў будынак ля Броўскай дарогі. У ім арганізуе бальніцу. Памагае ёй санітарка. У тым самым годзе прыязджае ў Белавежу ўрач Мар'ян Лаўрыновіч з жонкай, а пасля Вольга выходзіць замуж.

Белавежа пачынае адбудоўвацца, прыбывае людзей, пераважна лясных працаўнікоў. Вольга днём працуе ў бальніцы, а вечарам наведвае хворых на месцы іх пражывання. На сямейнае жыццё не хапае ёй часу. У дадатак у ваколіцы выбухае эпідэмія тыфу. Толькі скончылі з тыфам, як у 1923 г. загарэлася бальніца. Трэба было шукаць новага памяшкання. Знайшлі яго ля царквы. Хворых прымалі тут аж да 1928 г., пакуль не збудавалі на Трапінцы новы, мураваны будынак, спецыяльна прызначаны пад цэнтр здароўя. Аднак раней яшчэ, чым збудавалі цэнтр, муж Вольгі пабудаваў свой жылы дом, у якім таксама прымалі хворых. Тут змяшчалася часова і аптэка.

Вольга была і акушэркай, і зубным урачом... Лячыла хворых не толькі ў самой Белавежы, але і ў навакольных вёсках. Нярэдка даводзілася ёй прымаць роды ў зямлянках, проста на саломе.

2 жніўня 1941 г. гітлераўцы арыштоўваюць мужа Вольгі і разам з іншымі арыштаванымі жыхарамі (каля 50 чалавек) вывозяць у лес і расстрэльваюць. У тры дні пазней вывозяць і Вольгу разам з яе маткай. Іх смерць абышла. Затрымаліся яны ў Шэрашове. Вольга пачала працаваць у амбулаторыі сумесна з урачом Пракаповічам і тут да-

(Працяг на стар. 4)

# ЯК ПРАЙШОЎ ГОД У НАШЫХ ТВОРЦАЎ

Беручы ў рукі першы за новы месяц нумар „Нівы“ і адкрываючы яго на трэцяй старонцы, чытач спатыкаецца з тытульнай вінеткай „Белавежа“ пад якой змешчаны літаратурныя творы нашых мясцовых аўтараў. А змяшчаецца іх многа. На працягу мінулага года на дванаццаці літстаронках было надрукавана 126 твораў. Робячы падзел на прозу і паэзію, убачым перавагу ў бок другой. Калі ў 1976 годзе прозай займалася 4 пісьменнікаў, то паэзіяй аж 23. Неабходна адзначыць, што мінулы год быў плённым дэбютамі. Дэбютавала аж 6 асоб.

З гэтай колькасці аўтараў, якія выступілі на літстаронцы, сем — гэта тыя, якія ўсплылі разам з яе паяўленнем. Пачнем ад Алеся Барскага, які рэгулярна выступаў на літстаронцы ў разглядаемым намі годзе. Паэзія яго поўная мастацкіх сродкаў, якія гавораць аб вялікім паэтычным таленце паэта. Лірычны герой Барскага — гэта выхадзец з вёскі, якога душыць хуткі бег жыцця, да якога масава далятаюць шматлікія інфармацыі і робяць яго разбітым. А там дзесьці засталася вёска, лугі, шумячыя калоссем нівы і лес, які часта выступае ў паэзіі Барскага. Але ў разглядаемым намі годзе на літстаронцы былі змешчаны творы зусім іншага характару. Галоўнай тэматыкай творчасці Барскага ў апошнім годзе было каханне. Каханне простае, каханне, якое зводзіцца толькі да аднаго. Але і ў гэтых вершах праяўляецца тое, што найдаражэйшае паэту, а менавіта — родны краявід, прырода. Сцэну кахання змяшчае ён амаль заўсёды на фоне прыроды.

Апрача гэтага, Барскі змясціў цікавую паэму „Блізкасць далёкага“, у якой паказаў цяг жыцця і яго сэнс, над якім вядзе свае роздумы. Гэтую паэму, нягледзячы на тое, што мае яна глыбокі сэнс як цэласць, можна падзяліць, і кожны адрэзак стане паасобным вершам, маючым закончаную думку.

Наступны паэт, над якім трэба было б затрымацца, гэта Віктар Швед. З'яўляецца ён прадстаўніком традыцыйнай літаратурнай школы. Яго творы ад пачатку да канца нагадваюць творы беларускіх класікаў, а перш за ўсё Я. Купалу. Тут усё проста. І нельга гаварыць пра тую ці іншую недасканаласць думкі, таму што няма ў яго ніякай двухзначнасці. Каб адняць ад твораў Шведа рыфмаванасць, сталі б яны простай празаічнай інфармацыяй. Але вось менавіта Швед з'яўляецца найбольш вядомым і папулярным паэтам. А гэта таму што ў

(Працяг на стар. 4)



Навагодняя цішыня. Фота Я. Цялушэцкага.

З новым годам, з новым шчасцем!




# „Шэрыя ваўкі"

Імпарт таннай рабочай сілы з краін Міжземнамор'я, дзе высокі ўзровень беспрацоўя, даўно стаў даходным бізнесам галандскіх прадпрыемстваў. Тысячы туркаў, мараканцаў, грэкаў прыязджаюць сюды ў надзеі знайсці шчасце на чужыне.

За апошнія гады ў Галандыі значна вырасла калонія рабочых турэцкай нацыянальнасці. Яе колькасць сёння складае сто тысяч чалавек. Не многім удаецца сабраць „багацце": за цяжкую працу ім плацяць, як правіла, грашы, якіх ледзь хапае, каб звесці канцы з канцамі. Ну, а тыя, каму раптам пашанцуе ці ўдасца зарабіць на пабочным, часта падазроным бізнесе, лічаць за лепшае застацца ў Галандыі. Капітал яны звычайна ўкладваюць у невялікае кафэ ці рэстаранчык, наведвальнікамі якіх становяцца суайчыннікі.

Нядаўна ў галандскай прэсе з'явіліся паведамленні аб тым, што турэцкія „гастарбайтэрс" (рабочыя-мігранты) сталі аб'ектам не толькі сацыяльнай несправядлівасці, але і жорсткага тэрору і запалохванняў з боку сваіх суайчыннікаў — кіраўнікоў прафашысцкай паўваеннай арганізацыі „Бозкурт" („Шэры воўк").

Галандская прэса з трывогай адзначае, што ў Нідэрландах цяпер дзейнічаюць розныя экстэрмісцкія арганізацыі правага толку, якія імкнуцца ўстанавіць кантроль над замежнымі рабочымі. Яны нярэдка прымяняюць прамое насілле ў адносінах да палітычных эмігрантаў, перш за ўсё камуністаў і сацыялістаў. „Бозкурт" адкрыта выступае з прапагандай ідэй нацыянал-сацыялізму і пад выглядам барацьбы з камунізмам патрабуе для сябе права распараджацца турэцкай калоніяй за граніцай.

„Здраднікі краіны і ідэалаў туркізму павінны быць знішчаны", — заявіў нядаўна ў інтэрв'ю галандскай газеце „Дэ фолькскрант" Орхан Іілман, завадатар „шэрых ваўкоў" у Галандыі. Яго палітычная платформа — „барацьба супраць заходняга ўплыву, яўрэяў, грэкаў і перш за ўсё камунізму". Як кажуць, каментарыі лішнія.

Становішча турэцкіх рабочых у Галандыі ўскладнілася пасля пераводу заходнееўрапейскага цэнтра „Бозкурт" з Дзюсельдорфа ў Ротэрдам. Факты расправы прыхільнікаў арганізацыі з іншадумцамі ўсё часцей трапляюць на старонкі друку. Мяркуецца, што ў Галандыі цяпер налічваецца каля трох тысяч „шэрых ваўкоў". Метады іх работы разнастайныя: шантаж, пагрозы, збіванне суайчыннікаў, якія адмаўляюцца „выць па-воўчаму", стварэнне фіктыўных прафсаюзаў і зямляцтваў. Туркі, якія ўступаюць у гэтыя арганізацыі, часта памыляюцца, мяркуючы, што сталі членамі аб'яднання суайчыннікаў, якое можа аблегчыць іх становішча. На справе ж іх членскія ўзносы — ад аднаго да пяці гульдэнаў у тыдзень — пераводзяцца на рахункі рэакцыйных арганізацый у Турцыі.

„Кіраўнікі „Бозкурта" — нацысты, паслядоўнікі Гітлера, сучасныя эсэсаўцы", — заявіў адзін з турэцкіх рабочых, які наадрэз адмовіўся назваць карэспандэнту газеты „Дэ фолькскрант" сваё імя.

**Е. Ф.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**У цэнтры ўвагі Мілейчыцкая гміна • Баброўнікі • Цяжкае шчасце Валерыя Шарыя • Вечар Надзеі Артымовіч • Нарада ў ГП БГКТ • Даўней і сёння • Наша ёлка маладая • Весткі з Дубіч Царкоўных, Беластока, Локніцы, Грушак, Крынак, Бельска, Нараўкі, Белак • Песня „Cygańska jesień".**



**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

У творчасці сапраўднага мастака заўсёды адчуваецца непарыўная сувязь часоў. Да ліку такіх майстроў пэндзля належыць мастак Савецкай Беларусі Віктар Грамыка.

Дастаткова кінуць погляд на яго карціны, каб востра адчуць, якія трывалыя сувязі яго музы з перажываннямі партызанскага разведчыка, з перажываннямі чалавека, які ў дзяцінстве марыў лётаць, а быў вымушаны ў перапынках паміж цяжкімі баямі з ворагам браць у рукі разец гравера і ствараць воблік сваіх баявых сяброў для партызанскіх і франтавых выданняў.

На фронце ён быў не толькі кулямётчыкам, але і мастаком франтавога друку. Тады і здарылася аднойчы нязвыклая сустрэча з мастацтвам: у глухой вёсачцы ён убачыў дасканала намаляваныя эцюды невядомага мастака, якія захапілі яго на ўсё жыццё. Віктар Грамыка і сёння ўспамінае, як нешта самае дарагое гэтыя эцюды і сваё юнацкае жаданне лётаць. Магчыма, менавіта ад гэтага жадання і паўтараюцца пастаянна ў яго пейзажах высокія пункты гледжання, калі перад гледачом разгортваюцца велізарныя абшары азёр і калгасных палёў, пагоркаў і сініх далін... Магчыма, менавіта ад гэтай выпадковай сустрэчы з эцюдамі невядомага мастака ў гады вайны і ляжыць яго дарога да жывапісу.

# Герой яго палотнаў — ЧАС

Не, сувязь часоў — не толькі ў знешніх прыкметах біяграфіі майстра. Жывапіс Віктара Грамыкі адлюстроўвае і іншую глыбінную сувязь часоў у душы сучасніка: перажытае савецкім народам у гады Вялікай Айчыннай — неаддзялімае ад нашага сённяшняга ўнутранага свету. І ў гэтым сэнсе тэма Вялікай Айчыннай у творчасці мастакоў яшчэ доўга будзе сучаснай.

Бадай, самыя моцныя яго карціны створаны ў сярэдзіне 60-х — палове 70-х гадоў. Гэта палотны „Салдаты", „Льны беларускія", „Над Прыпяццю, 1941 год", „Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца".



*За працай заслужаны дзеяч мастацтваў Віктар Грамыка заўсёды сканцэнтраваны.*

— У апошні час цягне не да паасобных куткоў прыроды — хачу ўбачыць зямлю ўсю... — так гаворыць майстар.

Ён часта піша пейзажы па памяці. Напрыклад, начныя азёры. Шмат эскізаў, варыянтаў. Можна сказаць: шукае не пейзаж — сябе ў пейзажы. Шукае не кампазіцыйную і каларыстычную гармонію — нешта істотнае ў сабе самім. Праз пейзаж імкнецца адлюстраваць сваю партызанскую маладосць... І пераўвелічэння ў гэтым няма.

А яшчэ ён любіць блакіт. Блакітнае неба. Блакітныя ільны беларускія. У Віктара Грамыкі лён — гэта штосьці сапраўды каштоўнае, светлае, глыбока звязанае з зямлёй Беларусі і яе людзьмі.

Шмат увагі ён прысвячае жанру партрэта. Адна з большых удач — партрэт вядомага беларускага савецкага пісьменніка Янкі Брыля. Марыць напісаць партрэт пісьменніка Васіля Быкава.

Каб дапоўніць гэты кароткі расказ, гэты эскіз-партрэт самога Віктара Грамыкі, трэба дадаць: жыве і працуе ён у Мінску, выкладае ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, прымае самы актыўны ўдзел у дзейнасці Саюза мастакоў БССР, дзе шэраг гадоў быў старшынёю... У яго, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР шмат сяброў і сярод мастакоў, і сярод аматараў жывапісу. Ён шмат чытае, раздумваючы над лёсамі сучаснага мастацтва, аб шляхах яго развіцця. Шмат ездзіць па Зямлі — бываў у Італіі, Германіі, Балгарыі, Югаславіі, уважліва вывучае створанае яго зарубежнымі калегамі. А паездкі па Савецкаму Саюзу, па роднай Беларусі — незлічоныя.

Калі ён застаецца сам з сабой у сваёй майстэрні — у яго ёсць аб чым падумаць, каб расказаць пасля людзям аб чалавечнасці, мужнасці, патрыятызме, аб самым высакародным і таямнічым.



*„Над Прыпяццю, 1941 год".*

...Карціна „Над Прыпяццю, 1941 год". Над целам паміраючага байца схілілася старуха, а побач амаль каля самай вады, стаіць дзяўчынка; яе далоні, складзеныя каля рота, быццам узмацняюць крык. Не, гэта не крык роспачы, гэта вестка аб гераічна паўшых, што лётае на крылах часу над рэкамі, палямі, лясамі, праз гады і дзесяцігоддзі ў дзень сённяшні, да пакаленняў, не ведаючых таго, што перажыла яна, што перажылі тысячы тысяч такіх, як яна...

Сапраўды, сувязь часоў — непадзельная!

Нядаўна на персанальнай выстаўцы твораў мастака, прысвечанай яго пяцідзесяцігоддзю, мы ўбачылі яго карціны ва ўсёй іх складанасці і ўзаемасувязі.

**Уладзімір Бойка**




**Sobota — 1.I.77 r.** 9.00 Wyzwanie dla Robin Hooda — film fab. ang. 10.35 Sportowy przegląd roku. 11.40 Dziennik. 12.00 Koncert Noworoczny z Wiednia. 13.10 Dla dzieci: Bajkowy koncert życzeń. 14.00 Elza z afrykańskiego buszu — film fab. ang. 15.30 Pr. pośw. polskim koszykarzom. 16.35 Sport. 17.20 Szczęśliwego Nowego Roku — cz. I komedii radz. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Daleko od szosy — film ser. 22.05 Teatr Komedii: Thomas Brandon — Ciotka Karola. 23.05 Spotkanie z gwiazdą — Marie Laforet.

*

**Niedziela — 2.I.77 r.** 7.50 Now. w domu i zagr. 8.15 Nasze spotkania. 8.30 Sport. Andrzej Bachleda zaprasza. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielkie bitwy historii — Bitwa burska — film dok. fr. 11.35 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Wielka gra. 13.20 Piórkiem i węglem. 13.55 Dla dzieci. 14.35 Klub sześciu kontynentów. 15.35 Los. Dużego Lot. 15.50 Plebiscyt na najlepszego sportowca roku. 16.00 Szczęśliwego Nowego Roku — cz. II filmu fab. radz. 17.40 Miłość to cudowna rzecz — pr. muz. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Bajka dla dor. 20.50 Wojna i pokój — film ser. 21.40 Teatr Telewizji: G. B. Shaw „Nigdy nic nie wiadomo". 23.05 Pr. muz.

*

**Poniedziałek — 3.1.77 r.** 12.45 RTV szk. śred. Fizyka. 13.25 Tech. Rol. Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr TV: W. Szekspir „Wieczór trzech króli". 22.45 Dziennik.

*

**Wtorek — 4.I.77 r.** 6.00 RTV szk. śred. Fizyka. 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: J. pol. kl. VI. 10.00 Pr. dla najmł. 11.30 Wojna i pokój — film ser. ang. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Tel. Mł. 17.50 Pr. publ. 18.25 Sport. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Role Zbigniewa Cybulskiego. 22.10 Świat i Polska. 22.50 Dziennik.

*

**Środa — 5.I.77 r.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Upr. rośl. 10.00 Dla szkół: Hist. kl. V. 11.05 Fiz. kl. VIII. 12.00 Wych. plast. kl. VII i VIII. 12.45 RTV Szk. śred. Hist. 13.25 Tech. Rol. Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Lekt. Pegaza. 18.00 Konsylium cz. I. 18.30 Recital Edwarda Chilla. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Filmy Ingmara Bergmana — Namiętność. 22.25 Konsylium cz. II. 22.40 Dziennik.

*

**Czwartek 6.I.77 r.** 6.00 RTV szk. śred. Hist. 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 10.00 Dla szkół: Hist. kl. VI. 11.05 J. pol. kl. VII. 12.55 kl. II—IV. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Sport. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Kajak — odc. I filmu ser. 21.40 Pegaz. 22.25 Serenady wieczorne. 22.45 Dziennik.

*

**Piątek — 7.I.77 r.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla szkół. Geogr. kl. V. 10.00 kl. VI. 11.05 Wych. ob. kl. VII. 12.45 RTV szk. śred. Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Latający Holender. 18.10 Pr. publ. 18.35 Świat, który nie może zaginąć — film dok. fr. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Miłość Ałoszy — film fab. radz. 22.05 Wojciech Pszoniak. 22.50 Dziennik. 23.05 Uśmiech i piosenka.




**Piątek 31.XII** — 7.30 Koncert. 8.00 Film fab. 11.50 Balet. 14.00 Sport. 15.00 Koncert. 16.15 Filmy anim. 16.50 Film fab. 17.55 Spektakl. 20.50 Mel. z operetek. 22.05 Noworoczny pr. rozr. 1.00 Koncert estrad.

**Sobota. 1.I.77** — 7.30 Koncert. 8.00 Film fab. 14.05 Film anim. 15.00 Film dok. 16.15 Teatr miniatur. 17.20 Koncert finał. Piosenka — 76. (do godz. 21).

**Niedziela 2.I.77 r.** — 9.00 Koncert. 12.45 Film fab. 14.30 Cyrk. 15.00 Klub film. 16.35 Film fab. 19.30 Spotkania teatr.




**Białowieża** Zbrodnia pod błękitną gwiazdą — czes. 4—5. Drapieżca — fr. 6—7. Papierowy księżyc — USA 8—9.

**Bielsk Podl.** Przepraszam, czy tu biją — pol. 4—5. Synowie szeryfa — USA 6—7. Od siedmiu wzwyż — USA 8—9.

**Czyże** Być kobietą — radz. Miłość bywa zbrodnią — wł. 5—9.

**Dubicze Cerkiewne** Iwan Kondarew — buł. Zdradzieckie gry miłosne — czes. 5—9.

**Gródek** Zbrodnia pod błękitną gwiazdą — czes. 8—9.

**Hajnówka** Handlarz bronią — wł. 2—3. Trędowata — pol. 4—9.

**Kleszczele** Trzy orzeszki dla Kopciuszka — czes. 4—5. To jeszcze nie miłość — NRD 6—7. Trzecia córka — radz. 8—9.

**Michałowo** Dom lalki — ang. 4—5. Cezar i Rozalia — fr. 6—7. Nieposkromieni Hajducy — węg. 8—9.

**Mielnik** Noc amerykańska — fr. 5. Hazardziści — pol. 8—9.

**Milejczyce** Grzech Antoniego Grudy — pol. Nieszczęścia Alfreda — fr. 4—9.

**Narew** Czarodziejskie dary — NRD. Królewskie marzenie — USA 5—9.

**Narewka** Dzień Szakala — ang. Kajtek i nowy braciszek — węg. 5—9.

**Nurzec** Opowiadanie o przyjaźni — pol. 4—5. Zbrodnia pod błękitną gwiazdą — czes. 6—7. Mazepa — pol. 8—9.

**Orla** Bilans kwartalny — pol. Operacja „Dąb" — rum. 5—9.

**Rajsk** Hallo taxi — NRD. Kalendarz Warszawski — pol. 5—9.

B.Z.Graf. Zam. 2976 F-4

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 216

# Блізкасць далёкага

### ДВАНАЦЦАТАЕ

*Жыццё сваё я вылепіў з падглебы*
*I выстругаў з сукастае калоды.*
*I выйшла ўсё не так, як трэба,*
*Нязгодна з добрым стылем, з добрай модай.*

*Ды так яно ўжо і засталося;*
*Хаджу я між людзьмі, хаджу па свеце;*
*Шуміць, шуміць у галаве калоссе*
*I шастае у жылах пены вецер.*
*Людзі глядзяць — рэакцыі нязгодны:*
*— Глядзі, дзівак ідзе наш безразумны!*
*— Ды не, нармальны, з розумам свабодным,*
*У галаве з вясёла-сумным шумам.*
*Спытай мяне — за кім прызнаю рацыю:*
*За тым, хто бэсціць, ці за тым, хто славіць —*
*О, выбар ісцін — вечнае распяцце;*
*Тут правы правы, тут і левы правы.*

### ТРЫНАЦЦАТАЕ

*Кастрычнік па палове —*
*Сіні і ружовы,*
*Святлом акружаны я,*
*Нібы анёл божы.*
*Не хочацца сказаць*
*найменшага пайслова —*
*Маўчаць,*
*Маўчаць,*
*Маўчаць*
*Прыемна і прыгожа.*
*Ісці па парку,*
*Па лістоце,*
*Па успамінах*
*I верыць, што далёкая*
*Цябе чакае;*
*Ружовы божа! —*
*Адпусці мне сення віны.*
*Так, як і я*
*Табе грахі ўсе адпускаю.*
*У дзень такі*
*Вінюўных быць не можа ў свеце,*
*Усё акутана*
*Праменнасцю імглістай,*
*I людзі і багі*
*Пад дрэвамі, як дзеці,*
*I я,*
*Як быццам выпаў з рукава*
*Прачыстай.*

### ЧАТЫРНАЦЦАТАЕ

*Кахаць каханне і любіць любоў —*
*У сэрцы вечныя крыніцы.*
*Я вандраваў па свеце за табой*
*I меў я права памыліцца.*
*I памыляўся часта я не раз.*
*Ды з дна памылак выпрамляўся.*
*Крычаў я трыумфальнае „ура!"*
*I зноў, і зноў я памыляўся.*
*I так заўсёды, так усё жыццё;*
*То ўпадзем, то зноў устанем.*
*Каб толькі прынцыпу ніхто не суёр:*
*Любіць любоў, кахаць каханне.*

### ПЯТНАЦЦАТАЕ

*Сеньёра мілая,*
*На жаль, я не іспанец!*
*Пры поясе маім,*
*Як бачыш, няма шпагі,*
*На стадыёне з быка*
*Нічуць не раніў,*
*Натоўп мяне не славіў*
*За адвагу.*
*Хутчэй я Санча Панса,*
*Чымсьці Дон Кіхотам.*
*Хаця мой рост*
*Для Санча Панса завысокі*
*I мілы мне*
*Севільскага рамансa лёты,*
*I позірк Дульцынеі сінявокай,*
*I ветракі мне цалкам не чужыя,*
*I сніцца па начах мне*
*Гордая Ламанча,*
*У сне я абнімаю*
*Дульцынеі шыю —*
*Спрасоння бачу шыю*
*Асла Санча Панса!*
*Сеньёра мілая!*
*На жаль, я не іспанец,*
*Ды пры табе я,*
*Нібы пры паэме мотта;*
*Позірк вачэй тваіх,*
*Як меч, мне сэрца раніў*
*I стаў я з Санча Панса*
*Дон Кіхотам!*

### ШАСНАЦЦАТАЕ

*Заснула сонца,*
*Прадаўшы вечару пшаніцу,*
*I дзень упаў,*
*Як пераможны воін.*
*Месячным каўшом*
*Прайшла на рэчку ноч —*
*Напіцца.*
*Моляцца, лампадам зор*
*Манашкі-хвоі.*

**Алесь Барскі**

### * * *

Сэрца,
Ты плакала
I ты смяялася.
Ты жыло
Вялікаю надзеяй
I часам
Марай-кропляй
Цвіло ты,
Як першы майскі бэз.
I ты купалася
У восеньскіх дажджах.
Трывога, радасць, боль,
Вялікі смутак —
Усё расло ў табе.
Цяпер
Ты мёртвае.
Дык чаму?
Чаму
Я чую непакой?

**Надзея Артымовіч**

# Не паэт

Я не паэт
ды і пішу я мала,
не пнуся на Парнас,
не быць каб падмяталам.
Што я падумаю,
то часам запішу я,
бо можа пра мяне
ніхто і не пачуе...
Таму я не паэт,
што думаю няўмела —
без нейкіх там кручкоў,
занадта зразумела...
Чамусьці не хачу,
каб галаву ламалі
над тым, што напісаў,
над тым, што прачыталі...
Хацеў бы, каб мая
чужою думкай стала,
каб родная зямля
мяне не дакарала.
Каб мову прадзядоў
у сэрцы захавалі
і цэлаю душой
жыццё, як я, кахалі.
Каб кожны сябрам быў
другому назаўсёды
ды працай даражыў,
пакінуўшы нязгоды...
(Яшчэ адзін сакрэт, каб
не пыталі:
калісьці ўсе мяне
Валодзем называлі.
Яшчэ б я падказаў,
каб ведалі і тое,
што прозвішча маё
было і ёсць „шкляное").

**Валодзя Ш.**

# ГРАНЬ

Недастаткова ўбачыць форму грані,
заціснуць пальцы,
раскалыхаць цела
і абмятаць ступнямі гранітную сцяну,
шукаючы канта,
шчыліны,
пункта апоры,
перадышкі,
льготы...
Нашто слухаць пастаянна гургат
збіваных каменняў?...
Кожны з іх быў шанцам
падманлівым
і дарэмным.
Не толькі край скальнага парога
калечыць,
рве кавалкі скуры,
уціскае падцягваныя целы,
пакуль не ўпаўзуць яны
на каменны парог адчуцця,
за якім ніякія дзверы
не стаяць адкрытыя,
а толькі грувасціцца
грань...
Адсюль не відаць ні пачатку, ні канца —
дарога, як знікуль да нікуль,
вызначаная балючым уціскам
кожнай грані,
за якой пакора, утома
ёсць гарачым знакам жыцця.
Недастаткова захапіць
павеў марознага ветру
ў палопаныя губы,
у разамкнутыя вусны...
Недастаткова прымерыцца зрокам
да карлікавай сасны
і, як яна, учапіцца
ў гусцеючы непакой вечара,
паўзучага фіялетам,
цёмнасінім гранатам
і злавеснай паласой ценя...
Трэба прадчуць урэшце,
што ў ніякім прасторы
няма ні дарогі,
ні паказальніка,
ні слядоў пачатку,
ні вестуноў канца...
Нашто дарэмна прадрашаць,
няўжо адзінота
— мая або твая —
ёсць адзінкай жывой і мёртвай,
незаўважальнай ці няўлоўнай,
як ніць павучая,
якая
хістаецца
на краі...

**Багдан Смыла**

# Прагулка па моры

*Плыве наш кацер. Як калыска,*
*Гайдае нас у пырсках хваль.*
*Глядзі направа — бераг блізка,*
*Налева — вод бязмежна даль.*

*Вада ўся ў хвалях залаціцца,*
*Навокалззяе, як пажар.*
*А з неба, з сонечнай крыніцы*
*Уніз плыве прыемны жар.*

*Ты прытулілася пакорна,*
*Твой твар гарачы, як агонь,*
*Палаюць зрэнкі непаўторна,*
*А сэрца стукае, як звон.*

*Як тут цудоўна ўсё, што бачым:*
*Вялізны чорны ўвесь масіў,*
*Дамы ля мора і палацы,*
*Курорты, паркі і лясы.*

*Яны расселіся на скалах*
*Радамі ў розных ярусах,*
*I ў сонцы вабіць небывала*
*Іх ненаглядная краса.*

*Нікіцкі сад, Масандра, Ялта*
*Між кіпарысаў, пальм і фіг,*
*На фоне гор, пакрытых смальтай,*
*Зліліся ў дзіўны каларыт.*

*I карабель, як лебедзь белы,*
*Стаіць і сотнямі акон*
*Глядзіць на ўсё, як анямелы,*
*Як быццам бачыць дзіўны сон.*

*Глядзі, Левадыя. Бялеюць*
*Там сцены царскага дварца.*
*Мы там гулялі па алеях*
*Крутых і доўгіх без канца.*

*Пад рукі ўзяўшыся з табою,*
*Па царскіх залах мы прайшлі*
*I любаваліся красою*
*Дываноў, люстраў і карцін.*

*I ўспаміналі час далёкі,*
*Як за сталом там ля сцяны*
*Рашаўся новы лёс Еўропы,*
*Канец няволі і вайны.*

*Далей плывем мы ў хваль хаосе,*
*Нясуцца пырскі над вадой,*
*А міма замак на ўцёсе*
*Вісіць, як ластаўкі гняздо.*

*Вісіць над вірамі, над морам,*
*I дзень і ноч глядзіць на дно.*
*Мы там былі з табою ўчора*
*I пілі крымскае віно.*

*Мы там стаялі над абрывам,*
*Глядзелі ўніз: там у імгле*
*Вада шумела і бурліла,*
*Кіпела, быццам у катле...*

*Плывем далей, а ў небасхіле*
*Ай-Петры грозна ўніз глядзіць,*
*Як волат-рыцар, поўны сілы,*
*Ён сцеражэ марскіх граніц...*

*Мы ля Алупкі каляровай,*
*Прад намі пляжы і сады,*
*Палац знаёмы Варанцова,*
*Як шэры замак ля вады.*

*Ступенькі сходзяць проста ў мора*
*I з двух бакоў ільвы стаяць,*
*А ад паўночы, скалы, горы*
*Закрылі доступ у палац.*

*Паблізу парк, дзе мы гулялі,*
*Дзе першы раз цябе сустрэў,*
*Дзе мы шукалі фіг, міндалю*
*Паміж галін зялёных дрэў.*

*Там я на сонечнай паляне*
*З табой на лаўцы спачываў,*
*Цябе абняў там нечакана*
*I першы раз пацалаваў.*

*I з той пары ўжо больш як суткі*
*Не адыходжу ад цябе...*
*Дык пацалуй мяне тут хутка,*
*Бо кацер наш назад плыве.*

*Плыве ён ціха. Як калыска,*
*Гайдае нас у пырсках хваль.*
*Глядзі налева — бераг блізка,*
*Направа — вод бязмежна даль.*

**Д. Шатыловіч**

### ПЕРАМОЖЦЫ ЛІТАРАТУРНАГА КОНКУРСУ

З выпадку свайго юбілею ГП БГКТ аб'явіла літаратурны конкурс. Мэтай яго было атрыманне новых мастацкіх твораў на беларускай мове. У конкурсе не маглі ўдзельнічаць члены Саюза польскіх пісьменнікаў. Было даслана каля дзесяці твораў.

Журы конкурсу ў складзе: Сакрат Яновіч — старшыня, Алесь Барскі і Ян Чыквін — члены, прысудзіла дзве рэчавыя ўзнагароды:

I — Кастусю Бандаруку, крыптанім „Саламонаў", за твор „Кілім прывідаў" — 1 000 зл.

II — Юрку Генюшу, крыптанім „Вас", за твор „Валодзька" — 600 зл.

III — пастанавіла не прызнаваць. (ця)

# Просьба

Здымі мой грэх, лузе зялёны,
і прычасці расой святлістай
ды дай у рукі, як ікону,
здзябло з тваіх валос квяцістых.
А я вазьму яго ў далоні
і паплыву, як сляза, чыстым
выслухаць ад зямнога ўзлоння
падзячны пацер каласістым.
I павярну ў рыжы горад
здзябло ўваткнуць яму ў сэрца.
I будзе помнік, помнік-волат —
апошні волат жыцця й смерці.

**М. Шаховіч**

# Каб хоць разок будзіла мама

Бывала, мама будзіць рана:
— Пара ужо, уставай сынок!
Прачнуўшыся, яшчэ заспаны,
Вяду я коней на лужок.

На лузе коні срэбрны іней
Глытаюць з вялаю травой.
Клубком скрунуўшыся ў лагчыне,
Хаваю ногі пад палой.

Так часта марыцца, каб мама
Мяне будзіла хоць разок.
Каб мог я босымі нагамі
Ізноў пабегчы на лужок.

Хай, як калісьці, восень сцеле
Халодны іней — ну і што ж!
Бягу я ў думках ля аселіц
I малады, і басаногі.

Не скажа мама: — Пасвіць коней
Устань, хутчэй устань, мой сын...
А іней сыплецца на скроні,
Як маладосці ўспамін.

**Віктар Швед**

(Працяг са стар. 1)

## ЯК ПРАЙШОЎ ГОД У НАШЫХ ТВОРЦАЎ

творчасці яго прабіваецца прастата думкі, яе рэальнасць і даступнасць вялікаму кругу чытачоў. Цікавяць яго толькі справы вялікія. Не любіць ён драбіцца і не прызнае дэталяў. Калі гаварыць пра вартасць, трэба было б доўга дыскутаваць, бо з боку чытачоў мае ён вялікую пазітыўную ацэнку.

Наступным шырокавядомым і плённым паэтам з'яўляецца Я. Чыквін, яго творы адрозніваюцца псіхалагічным аналізам. Нічым яны не напамінаюць твораў другіх аўтараў, выступаючых на літстаронцы. Індывідуальнасць унутраных перажыванняў, псіхічныя камплікацыі ў перакананні аўтара — гэта састаў, які з'яўляецца галоўным рухавіком чалавечага дзеяння. Яго творы маюць глыбокі змест. Дасканала ўмее перадаць на паперы тое, аб чым піша, і выклікаць у чытача той вобраз, які ён сам бачыў. У некалькіх радках умее змясціць глыбокі сэнс. Прыкладам можа быць цыкл „Задуменні". Некалькі слоў трэба сказаць таксама і пра Ул. Гайдука. Ён ад пачатку да канца звязаны з вёскай. І яго творы — гэта творы, пісаныя ад сэрца вёскі. Яго творчасць напамінае крык С. Ясеніна і часта занадта да яго набліжана („З цягам часу разумею болей..."), але цяжка закідаць яму гэта, не знаючы душы паэта.

Горш справа выглядае з прозай. Можна проста ўвесці тут толькі тэматычны падзел, таму што характарызаваць аўтара паводле некалькіх твораў немагчыма. Вядучай тэмай у прозе за 1976 г. з'яўляецца тэма гістарычная. Адносіцца гэта да прозы М. Гайдука. Творчасць яго абапіраецца на фактах, загорнутых у мастацкія сродкі. Чытаючы твор Гайдука, многа можна даведацца, але адначасова назіраецца кандэнсаванасць.

Пачынаючы ад канца 1969 года, на літстаронцы пачалі паяўляцца новыя прозвішчы: Ірэна Баравік, Ніна Гаўрылюк, Іван Кірызюк, Пятро Кірызюк, Вераніка Леанюк, Зося Сачко, Леапольд Танкевіч, Надзея Артымовіч, Мікалай Варанецкі, Кастусь Бандарук, Янка Брацкі, Багдан Смыла, Агнія, Ваву, Хрысціна Саўко, Варвара Квапіш, Уладзімір Шклярук і Уладзімір Малашкевіч. У сувязі з гэтым паявілася новая форма пісання, новы стыль і зусім іншая пабудова верша. Гэта так званы сучасны верш. Прагладаючы паэзію гэтых маладых аўтараў, бачыш разнабой тэм і стыляў. Частка з іх піша дыялектам: Іван Кірызюк, Пятро Кірызюк і Зося Сачко, а астатнія — чыста літаратурнай мовай. Робячы аналіз змешчаных вершаў маладых тварцоў, бо за выключэннем Ул. Малашкевіча ўсе яны займаюцца паэзіяй, пачынаем заўважаць, што частка з іх у меншай ці большай ступені выпрацавала свой стыль і пачала будаваць сваю ўласную дарогу ў літаратуру. І трэба тут прывесці такія прозвішчы, як В. Леанюк, Зося Сачко, Ніна Гаўрылюк і Надзея Артымовіч. Цяжэй сказаць нешта канкрэтнае пра тых, якія дэбютавалі ў 1976 годзе. Але адно, што пэўнае — гэта добры старт. Што будзе далей і як пойдзе іх дарога, пакажа час. Адно пэўнае, што ўсе іх творы, змешчаныя на літстаронцы, маюць літаратурную вартасць. Зразумела, адзін твор можа быць лепшы, другі — горшы, але выступае гэта нават у тых аўтараў, якія маюць за сабой вялікі літаратурны вопыт. І таму не трэба гэтым пераймацца. Трэба проста пісаць ды дасканаліць пяро, а калі ідзе гутарка пра вартасць, то ўжо тое, што апынуліся яны на літаратурнай старонцы, гаворыць само за сябе.

**М. Сакоўскі**

## АД РОДНЫХ НІЎ

### НА НОВЫ ГОД

*Дзень за днём праходзіць*
*нястрымна ўпярод.*
*Стомлены, адыходзіць*
*ад нас стары год.*
*Новы год вясёлы*
*ад усходу йдзе,*
*праз палі і сёлы*
*плыве па вадзе.*
*Будзь ён справядлівы*
*на усёй зямлі,*
*згодны і шчаслівы*
*ў працы і ў сям'і.*
*Мы яго спаткаем,*
*вып'ема да дна*
*поўныя бакалы*
*светлага віна.*
*Аркестра зайграе*
*весела тады,*
*добра пагуляе*
*стары й малады.*
*Музыка пальецца,*
*як з крыніц вада,*
*з песняй панясецца*
*ў сёлы, ў гарада.*
*Толькі над рассветам*
*ляжам спачываць,*
*будзем ночку гэту*
*доўга ўспамінаць.*

**А. Леўшук**

## ЖЫЦЦЁ, АХВЯРАВАНАЕ ЛЮДЗЯМ

(Працяг са стар. 1)

чакалася вызвалення. У жніўні 1944 г. вярнулася ў Белавежу. На шчасце, цэнтр здароўя быў у здавальняючым стане і можна было адразу пачаць там працу. Урача Лаўрыновіча немцы арыштавалі і вывезлі з Белавежы пад канец вайны. Але адразу ж пасля вызвалення вярнуўся сюды, ды потым выехаў у Бельск.

Вольга Смактуновіч першыя 10 гадоў працавала без водпуску. Не было ўвогуле часу, каб заняцца сваімі прыватнымі справамі. І гэтак штодзень, аж да пенсіі ў 1958 г. Але гэта яшчэ не быў канец працы гэтага чалавека. Яна яшчэ да 1973 г. працавала (па дзве гадзіны ў дзень) школьным урачом у Лясным тэхнікуме, дзе таксама вяла ўрокі гігіены. Моладзь вельмі сардэчна яе ўспамінае. Ды не толькі моладзь. Паважаюць яе ў цэлым асяроддзі, дзе працавала і жыве. У 1950 г. улады ўзнагародзілі яе Залатым Крыжам Заслугі, а ў 1971 г. — знакам „Заслужаны для Беласточчыны".

Вольга Смактуновіч, хаця ёй сёння 85 гадоў, вельмі жвавая жанчына. Актыўна працуе ў гуртку Лігі жанчын, удзельнічае ў сустрэчах з моладдзю. Не адмовіць таксама нікому ў медычнай дапамозе. Найбольш, аднак, часу прысвячае працы ў садзіку. Многа чытае.

**Пётр Байко**
Фота аўтара

## ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

12 снежня 1976 года ў Беластоку адбыўся чарговы семінар літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа". Удзельнічала ў ім каля 20 асоб. Семінар вёў старшыня праўлення літаб'яднання Віктар Швед. З уводным словам да дыскусіі аб форме і змесце літаратурнай старонкі „Белавежа" выступіў Міхась Шаховіч. У дыскусіі прымалі ўдзел Сакрат Яновіч, Зося Стаськевіч, Віктар Швед, Зося Сачко, Юрка Геніюш і Уладзімір Гайдук. Дыскутанты далі высокую ацэнку літаратурнай старонкі, аднак, была звернута ўвага на адсутнасць літаратурнай крытыкі, на малую колькасць перакладаў з польскай і рускай моў. Былі выказванні, якія датычылі пытання: пісаць ці не пісаць на дыялекце.

Былі прапановы, каб на наступны семінар запрасіць народных творцаў, творы якіх публікуюцца ў рубрыцы „Ад родных ніў".

Была выбрана рэдкалегія альманаха „Белавежа" III: Міхась Шаховіч, Сакрат Яновіч і Віктар Швед. Новы альманах будзе выдадзены ў 1978 г., у 20-ую гадавіну дзейнасці аб'яднання, а творы ў альманах трэба дасылаць на адрас „Нівы" з паданнем прозвішча Міхася Шаховіча, не пазней аднак, як да 30 сакавіка гэтага года. Затым члены літаб'яднання расказалі аб сваіх новых творчых задумах і прадставілі свае творы.

Сакрат Яновіч, ад нядаўна старшыня літаратурнага клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку, расказаў аб выдавецкіх намерах пісьменніцкага клуба, аб патрэбе кантактаў з маладымі паэтамі і празаікамі, згуртаванымі пры настаўніцкім клубе „Бакалаўр", аб патрэбе ўзаемных перакладаў твораў выбраных аўтараў. Затым старшыня клуба ЗЛП паінфармаваў аб падрыхтаваных да друку паэтычных зборніках Міхася Шаховіча, Янкі Чыквіна, Надзеі Артымовіч і Уладзіміра Гайдука, а таксама зборніка празаічных твораў Уладзіміра Малашкевіча.

(ця)



...І што б тут папрасіць у Дзеда Мароза? Фота Я. Цялушэцкага.

## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА III

**Апавяданні.** Зборнік „Рунь" складаецца з малых празаічных форм. У асноўным гэта апавяданні, хаця некаторыя з твораў можна было б назваць навеламі. Пяць першых у кнізе твораў: „Рунь", „Войт", „Князіня", „Да самога сябе", „Кавалкі з дзеўніка" не паддаюцца акрэсленай жанравай тыпізацыі. Адны з іх маюць характар успаміну, другія — кароценькіх навел, трэція — мемуарных запісаў. Цікава тое, што ў гэтых як бы выпадковых, як бы незакончаных творах выступаюць найбольш характэрныя для ўсёй пазнейшай творчасці пісьменніка тэматычныя плыні. Належыць да іх перш за ўсё залічыць: нацыянальную праблематыку, тэму феадальнага мінулага, справу псіхалагічнага разладу чалавека.

Варта адзначыць, што чатыры з пяці названых вышэй твораў аўтар прыпісвае нейкаму бліжэй невядомаму Уладзіміру, якога пісьменнік называе сваім другам.

У нарысе „Рунь" з падзагалоўкам „Памяці другу", які адкрывае кнігу, Гарэцкі досыць дакладна характарызуе Уладзіміра. Прадстаўляе яго спецыфічную натуру. Гаворыць аб намеры Уладзіміра працаваць для нацыянальнага адраджэння Беларусі шляхам яе эканамічнага развіцця:

„Ён хацеў словам адраджаць чалавека ў беларусе (не ў другім кім, бо ён — сын беларускага народу і найлепш мог паслужыць Беларусі). Але запала яму неяк у галаву, што вось пракрокі слова ў нас знаходзяцца, а пракрокаў-эканамістаў няма.

Ён хацеў так. Сабраць у свеце ў адных сваіх руках столькі грошай, каб, напрыклад... купіць усю Вільню, і потым з гэтымі грашыма рабіць эканаміцкае адраджэнне Беларусі. Гэта, у паследку, была яго манія, і некаторыя лічылі яго блізка што ненармальным".

З фрагментаў нарыса даведваемся, што Уладзімір прапаў без весці і што, на думку аўтара, знаходзіцца ў Амерыцы або ў Аўстраліі і там рэалізуе свае планы адносна радзімы.

Другую пазіцыю ў зборніку „Рунь" займае навела „Войт". Твор гэты Гарэцкі прыпісвае Уладзіміру. Гаворыць, што знайшоў навелу ў яго паперах. „Войт" — твор характэрны і для пазнейшай творчасці Гарэцкага. Пісьменнік няраз яшчэ будзе звяртацца да феадальнага мінулага.

У навеле расказана аб кароткай, але вымоўнай гісторыі. Войт едзе ў санях з панскага двара ў панскія вёскі. Заданне яго простае. У сувязі з заканчэннем святкавання запустаў поп загадаў прывезці ў двор найпрыгажэйшых дзяўчат. З гэтым заданнем і паявіўся войт у хаце селяніна Юркі, які меў прыгожую дачку Тацяну.

Гэтым і канчаецца навела. У кароценькім творы аж надта многа сацыяльнага і асабістага гора. Як жа розная карціна сялянскага жыцця прадстаўлена ў „Войце" і ва ўсёй творчасці Дуніна-Марцінкевіча. Тэзіс Марцінкевіча аб памешчыках-бацьках і сялянах-дзецях заменьваецца ў руіны пад напорам аднаго факту, прадстаўленага ў навеле „Войт".

Трэцяе месца ў „Руні" займае апавяданне „Князіня". Твор гэты прыпісвае Гарэцкі таму ж таямнічаму Уладзіміру.

Князіня сваёй стылістыкай, тэматыкай і перш за ўсё ідэйнай накіраванасцю пярэчыць „Войту". „Князіня" па сутнасці не мае характару фабулярнага празаічнага твора. Гэта хутчэй за ўсё эскіз, замалёўка, увертура да чагосьці шырэйшага і больш акрэсленага.

„Князіня" мае характар сахарынна-салодзенькага апавядання аб самотнай, чулай, прыгожай і працавітай князіні, якая сядзіць адзінока ў палацы і перапісвае Евангелле.

Стылістыка „Князіні" напамінае найгоршыя ўзоры сентыментальных мяшчанскіх раманаў. Прыслухаймася да слоў, якімі аўтар выразна хоча расчуліць чытача:

„Скацілася тонкая, беленькая з дробненькімі, кволенькімі пальчыкамі князініна рука на калена; а валасы, як непрыдуманая па сваёй прыгажосці, чыстая густая кудзеля, рассыпаліся па цёплаватых пухленькіх плечках і з пацямнеўшых ад жалю і смутку вочак закапалі гарачыя, чыстыя слёзы, як светлая раса..."

Ужо прыведзены фрагмент сведчыць аб гіпербалічнай далікатнасці, аб псеўдаэмацыянальнасці ў захапленні фізічнай і духоўнай прыгажосцю князіні.

Словам, усё ў стылі Дуніна-Марцінкевіча. Цяжка паверыць, што і „Войт" і „Князіня" выйшлі з-пад таго самага пяра.

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ — AURA



*Заказвалі: М. Зажэцкі, Я. Вавульскі з Малісаў, А. Мароз з Чаромхі, В. Бараноўская з Пілатоўшчыны, Г. Карповіч з Юзафова, А. Палешчук з Гарадка, К. Сакалоўская з Піражкоў, І. Несцярук з Дубіч Царкоўных.*

## Куток практычных ведаў




### ЯК ДАГЛЯДАЦЬ НОВАНАРОДЖАНАГА

Сёння пагаворым аб клопатах, з якімі можа сустрэцца маладая маці ў першыя дні пасля звароту з бальніцы дахаты.

Вядома, што наогул пупок у нованароджанага яшчэ не зусім загаіўся. Таму маці павінна асабліва асцярожна даглядаць дзіця, каб не ўвесці заразкі праз рану ў арганізм дзіцяці. Інакш можа атрымацца заражэнне крыві, а ў сувязі з гэтым цяжкае агульнае заражэнне. Незагоены пупок, такім чынам, павінен быць прыкрыты стэрыльнай марляй, спырснутай спіртам. Нельга яго замачыць у час купання дзіцяці. Трэба прамываць толькі скуру навокал пупка 70-працэнтным спіртам і змазваць гініцыянай. Адпаведныя кавалкі бінта ў маленькіх пачачках можна набыць у аптэцы. Нельга павязкі прылепліваць пластырам на далікатную скуру дзіцяці, нельга таксама бінтаваць, каб не сціскаць жывот дзіцяці, а толькі прыціснуць кашулькай і кафтанікам. Калі пры перавіванні дзіцяці павязка адпадзе, кладзем свежы кавалак стэрыльнай марлі.

Часта ў нованароджанага выступае гнаенне вачэй. Пры слабым гнаенні дастаткова прамываць некалькі разоў у дзень свежым напарам рамонку альбо вадкасцю, падрыхтаванай з кіпячонай вады і некалькіх кропляў „Азуляну", які заўсёды можна набыць у аптэцы ці ў магазіне з зёлкамі. Колер вадкасці павінен быць светлажоўты. Вочы прамываем чыстай ватай, намочанай у гэтай вадкасці, перасоўваючы вату ад знешняга кутка ў напрамку носа, ніколі наадварот.

Трэба таксама звярнуць увагу на рот дзіцяці. Часта пры недакладным доглядзе дзіцяці (брудная соска ці непрамытыя грудзі) дзіця заражаецца грыбком. Паяўляюцца ў яго роце белыя налёты. Найлепш у такім выпадку зрабіць водны раствор гініцыяны 1-2%, які пры невялікай хваробе можна падаваць некалькі разоў у дзень па 1 кроплі ў рот дзіцяці. Пры большай колькасці грыбка трэба ліквідаваць яго наступным чынам: абдаць кіпенем чайную лыжачку і на яе ручку вельмі чыстымі рукамі накруціць стэрыльны бінт або вату, якія пасля мочым у гініцыяне і, адціскаючы аб сценкі бутэлькі, выціраем у сярэдзіне рот дзіцяці.

**Эскулап**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Бацька пакінуў завяшчанне, складзенае начальнікам гміны, у якім запісаў жонцы 3 га, а дачцы і сыну па 2,5 га. Дачка — інвалід II групы, а сын жыве на сваёй уласнай гаспадарцы. Акт уласнасці на цэлую гаспадарку атрымала жонка, якой ужо 66 год. Ці сын і дачка могуць патрабаваць запісанай завяшчаннем часці гаспадаркі? Ці калі жонка спадкадаўцы аддасць гаспадарку дзяржаве за пенсію, можа завяшчаннем запісаць сялібу з будынкамі сваім дзецям?

АДКАЗ: Калі жонка спадкадаўцы атрымала ад адміністрацыйных улад акт уласнасці згодна з законам ад 26.X.1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, то яна з'яўляецца выключнай уласніцай гаспадаркі, а завяшчэнне ў гэтых адносінах не мае ніякага значэння і іншыя наследнікі ніякага права да гаспадаркі прад'яўляць не могуць.

Калі ўласнік зямлі перадае гаспадарку дзяржаве за пенсію, можа затрымаць сабе будынкі. Да смерці ўласніка будынкі лічацца яго ўласнасцю і ён можа іх прадаць. Аднак пасля смерці, калі ён пры жыцці не збыў іх, будынкі пяройдуць на ўласнасць дзяржавы. Зямля ўся, у тым ліку і сяліба, пераходзіць адразу пасля перадачы гаспадаркі дзяржаве ва ўласнасць дзяржавы. Па прапанове гаспадара пакідаецца яму ў карыстанне зямля да 0,5 га, якую ён збыць не мае права. Завяшчанне, якім маці хацела б запісаць сялібу з будынкамі дзецям, не будзе мець ніякага значэння.




Прыснілася мне, што ішла я кудысьці ў чорнай ваўнянай сукенцы (ваўняная была — гэта я памятаю добра). Да сукенкі быў прышыты нейкі дзіўны каўнер: нібы падвойны, а так сшыты, што выглядаў, нібы труна. Я пачала папраўляць гэты каўнер, выгладжваць, каб быў прамы, а ён ізноў паднімаецца ў форму труны. Дык я зрызыгнавала. Але чую: ззаду сукенку маю нешта цягне. Гляджу: а там учапіўся за мой падол чорны сабака. Я пачала круціцца і махаць сукенкай, а ён так да яе прычапіўся, нібы быў адналітай цэласцю з маёй сукенкай. Ніяк я яго не магла адарваць. Тады бачу: нейкі мур, сцяна, горба каменняў. Я закрунулася, махнула сукенкай, каб сабака адарваўся, і тут... прачнулася. Не магу знайсці сабе месца, чую, што абазначае ён нешта вельмі благое. Памяраць жа мне яшчэ не час, бо мне ўсяго сорак...

А пасля прысніўся мне вазон, з вялікімі доўгімі галінкамі (у мяне такі ёсць), але быў ён зусім сухі. **Валя**

Дарагая Валя! Што ні кажы, але сон ваш сумны. Ці не чакае вас нейкая жалоба ў сувязі з утратай нейкага прыяцеля... Чорная сукенка — нядобры вястун, а да яе прычапіўся сабака. І хаця сукенка была ваўняная (а воўна — гэта поспех у справах і моцнае здароўе), а каўнерык у форме труны мог бы абазначаць смерць толькі для людзей старых, для сямейных жа людзей абазначаў бы нейкі прыбытак, то ўсё ж над усім дамінавала ваша чорная сукенка з прычапіўшымся сабакам... Ды і мур, сцяна, каменні...

Аб нейкім смутку сведчыць і другі ваш сон — бо вазон ваш не быў квітнеючы, а сухі. **Астрон**




Дарагое Сэрцайка, падвяло мяне ў маладосці каханне. Хадзіла я з хлопцам з суседняй вёскі. Кахала яго цэлым маладым дзявочым сэрцам. Верыла яго словам, абяцанням. Але не прайшло і года, як усё скончылася, і засталася ў маім сэрцы пустка, смутак і расчараванне. Я зацяжарыла, і калі сказала аб гэтым хлопцу, ён адхінуўся ад мяне. Але (чаго не спадзявалася) мама аднеслася да мяне з вялікім зразуменнем. Сказала, што паможа мне выгадаваць дзіця. Толькі людскім плёткам канца не было. Я ўжо саромелася людзям на вочы паказвацца. А калі дзіця крыху падрасло, падумала, што лепш будзе, калі выеду адсюль. Дзіця засталося ў мамы, а я паехала ў горад, і стала на работу. Ужо два гады працую. І пазнаёмілася я тут з Янкам. Ужо ходзім паўгода. Падабаемся адно другому. Толькі вось аб гэтым, што я маю дзіця, яму не сказала. Амаль кожную суботу я езджу да малыша. А нядаўна Янак запрапанаваў, каб паехаць разам. Кажа, столькі ходзім, пара аб жаніцьбе пагаварыць, з бацькамі пазнаёміцца. Не магла я ўжо тут выкруціцца і згадзілася. Што цяпер рабіць?

Міра з Дуброўшчыны

Міра! Таіць справу няма сэнсу. Скажы Янку адкрыта, што маеш дзіця. Калі ж ажэніцца з табой, павінен быць бацькам твайму дзіцяці. Калі Янка сур'ёзны чалавек, калі цябе шчыра кахае, то і тваё дзіця не стане яму перашкодай.

**Сэрцайка**

ЭТНАГРАФІЧНАЕ АКЕНЦА



*Элемент народнага мастацтва ў будаўніцтве. Франтон з мастацкай шалёўкай, разьбою і конікамі на доме Ч. Іванюка в. Машчона Каралеўская гм. Мельнік. Дом збудаваны пасля апошняй вайны.* *Фота І. Снарскага.*




...Янак усхліпнуў, правёў рукавом па твары і пачаў павольна адступаць ад касцёла. Потым павярнуўся і памчаўся прэч.

Бег ён мякка, скачкамі, як кот, прыціскаючыся да сцен дамоў. Ён не думаў цяпер аб небяспецы. Але ні разу не выскачыў на вялікую вуліцу, дзе можна было нарвацца на немцаў. Пра немцаў ён таксама не думаў. Ён думаў пра Ханку. Бег завулкамі, прахаднымі дварамі. Проста Янак не ведаў іншай дарогі ў горад.

Яму было пяць гадоў, калі ў горад прыйшлі панове, якія размаўлялі на незразумелай мове і не любілі, калі іх не разумелі адразу. Панове стралялі і вешалі.

Павешаных Янак не бачыў, але ён вельмі спалохаўся, калі даведаўся, падслухаўшы размову Ханкі і маці, што павесілі добрага і вясёлага Стася Пшажэцкага. Стась заўсёды заступаўся за маленькіх, а Янку змайстраваў самакат. Называлі гэтых паноў немцамі, фашыстамі. І галоўны сярод іх быў Гітлер. Але Гітлера Янак ніколі не бачыў. Напэўна, ён сядзеў у той школе, дзе павінен быў вучыцца Янак, а цяпер там быў нямецкі штаб...

Янак пералез цераз паўразбураную каменную агароджу закінутага дома. Да дзядзькі Вацлава было ўжо недалёка. Яго домік стаяў на самай ускраіне, ля ракі, патанаючы ў акацыях.

Чым можа дапамагчы дзядзька Вацлаў, Янак не ведаў. Але толькі да каго ж яшчэ бегчы, каму расказаць, што немцы загналі ў касцёл многіх жыхароў, забілі дзверы і цягаюць тыя самыя чорныя скрынкі, складаючы вакол касцёла. Янак бачыў, як абваліўся ахоплены полымем чатырохпавярховы дом, які абклалі гэткімі ж скрынкамі. А ў касцёле людзі. Там Ханка. Дзядзька Вацлаў павінен штонебудзь зрабіць.

У Янка не засталося нікога, акрамя Ханкі і дзядзькі Вацлава. Бацька памёр даўно. За некалькі дзён да таго, як у горадзе з'явіліся першыя нямецкія матацыклісты. Янак уяўляў сабе бацьку такім, якім кожны дзень бачыў на фатаграфіі над сваім ложкам.

...Потым пайшла і не вярнулася маці. Яна паехала ў Люблінскае ваяводства, у вёску мяняць рэчы на хлеб і сала. Потым прыйшла вестка, што маці трапіла ў аблаву. Яе прынялі за партызанку і расстралялі. Янак і Ханка засталіся ўдваіх. І вось сёння схапілі Ханку...

Янак падбег да дома дзядзькі Вацлава і ўляцеў у расчыненыя дзверы. У пакоі ўсё было раскідана. Пер'е разарваных падушак засцілала падлогу, як снег.

Янак павярнуўся і пайшоў прэч. Куды? Цяпер ужо ўсё роўна. Ханка загінула, яму не выратаваць яе.

— Хальт! — Цяжкая рука моцна сціснула плячо. Бегчы было позна. Перад Янкам стаялі два немцы.

— Я дамоў бягу, проша пана, я нічога не ведаю. Ніц нема, пане! Проша пана... — Янак заплакаў.

Немец правёў далоняй па Янкавых віхрах.

— А ну, хлопчык, паглядзі такі фокус-мокус, — нечакана сказаў ён, і перад заплаканымі вачыма Янка з'явіўся велізарны кавалак цукру.

* ❊ *

Загад прарваць нямецкую абарону на лініі Мендзыжэч дывізія атрымала яшчэ ўчора вечарам. Авангардныя батальёны адразу пайшлі на штурм і сустрэлі шквальны кулямётны і мінамётны агонь. Праціўнік біў па дакладна разлічаных, загадзя прыстраляных квадратах. І шэры дымны змрок не быў саюзнікам наступаючых. Атака захлынулася.

Мендзыжэч быў нібы спецыяльна пабудаваны, каб вытрымаць доўгую асаду. Ён узвышаўся на ўзгорку, а ўнізе працякала невялікая, але хуткая рачулка. Вакол узгорка багна, луг. Рака абвівала горад з трох бакоў, амаль ушчыльную падыходзячы да тоўстых каменных сцен невысокіх дамоў. Цяпер гэтыя дамы ператварыліся ў доты. Наколькі глыбокая абарона немцаў і што робіцца на заходняй ускраіне, разведцы высветліць не ўдалося.

Між тым суседзі справа паспяхова развівалі наступленне. Левы фланг іх аказаўся адкрыты.

...Камандзір 185-й, генерал Музыкін, так і не прылёг у гэту ноч. Дзесяткі разоў выклікаў да тэлефона камандуючы. Дзесяткі разоў Міхаіл Максімавіч выклікаў штаб корпуса. Зразумела было адно — на штурм дывізія пойдзе днём. Але адна справа ведаць, калі штурмаваць, і зусім іншая справа вырашыць — як.

У штабе дывізіі ўсе ведалі, што генерал рэдка бывае задаволены боем, як бы пераможна гэты бой ні закончыўся. Калі клаліся на яго паходны стол зводкі аб стратах „у жывой сіле", ён станавіўся змрочным і мог без дайпрычыны адчытаць першага, хто трапіцца на вочы.

— Давай, збірай штаб! — гэтыя словы былі звернуты да ад'ютанта, які прылёг тут жа, у генеральскім бліндажы, на засланым ватнікамі тапчане.

**(Працяг будзе)**

